Мар'ян Дукса

# ТВАЯ ПАРА СЯЎБЫ



**Вершы**

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1985



## ЗЯЗЮЛЯ РАДЗІМЫ

Здарожаны, збаўлю на момант хаду,
адчуўшы дыханне знаёмай крыніцы.
Я чуйна да жоўтай сасны прыпаду,
каб бачыць,
як падае зверху ігліца.

Прыкмечу,
застыўшы на колькі хвілін,
як цёплае сонца, шукаючы шчокі,
зрываецца ўніз з маладых вершалін,
як скачуць праменні,
як скачуць сарокі.

Мне слухаць,
як побач гравійка гудзе
і трактар ракоча за вёскаю блізкай.
І ведаць,
адкуль яшчэ пошум ідзе —
то возера Свірскае радасна пырскае.

І ўрэшце змагу я учуць пакрысе,
як чэрвеньскі ветрык, напоўнены ласкай,
у мройным паветры кудысьці нясе
бясконцую музыку хваль нарачанскіх.

І раптам
над самай тваёй галавой
прарвецца матыў твой шчымліва-любімы.
І стане ад шчасця душа незямной,
калі закукуе зязюля радзімы.

Зязюля радзімы,
твой кліч у бары
над шчэбетам, гулам жыцця шматгалосым
выразна і чыста плыве угары,
як самая ясная песня над лёсам.

Зязюля радзімы,
як помню, заўжды
твая абсыпаецца скруха між веццяя,
як быццам ты лічыш не толькі гады —
магілы тутэйшыя з дзён ліхалецця.

Зязюля радзімы,
мо памяць, як нож,
цябе праціна, хоць зырыцца просінь.
І колькі — жадаеш уведаць усё ж —
чужынцамі знішчана вёсак і сосен.

Зязюля радзімы,
лічы неўпрыкмет
і раны, і славу у сённяшнім гудзе.
На кожную тысячу колішніх бед
не меней як тысяча подзвігаў будзе.

Зязюля радзімы,
падлічвай заўжды
сваім кукаваннем здалёку і зблізку
вяселлі, і песні, і збожжа пуды,
і вечныя каля дарог абеліскі.

## ЛЯСНАЯ КАПАЛЬНЯ

Ах, гэтая сусветная вайна,
вайна, якую ахрысцілі першай,
што коннаю была, а болей пешай —
якою дзіўнаю была яна...
І пышна ў ёй гняздзілася мана.

Ды разам з тым жылося вольна ёй!
Мільёны душ у неба адгрузіла.
І вось на два гады затармазіла
на Мядзельшчыне сцішанай маёй,
распоўзшыся траншэйнаю змяёй.

Спынілася, зарыўшыся ў зямлі,
забіўшыся ў акопныя «пенаты»...
Хоць з двух бакоў ахрыплыя гарматы
і днём, і ноччу на ўвесь свет раўлі,
гарох свінцовы сеючы ў раллі.

І нездарма і зараз, як звычай,
зусім не ледніковыя камені,
а той гарох, які не хоча менець,
зніжае тут настойліва ўраджай.
Зямля гаворыць жыту: «Выбачай».

Вайна яшчэ ўпівалася «гульбой»,
бо логікі паводле афіцыйнай
хоць сто гадоў магла быць пазіцыйнай,
каб немцы ўміг не збеглі ўсёй гурбой
і бог вайны не спавясціў: «Адбой!»

Як часта ўсё ж, калі быў хлапчуком,
я цешыўся: дарэчы, так дарэчы,
што тыя немцы ўсе спажыткі-рэчы
тут кінулі, прысыпаўшы пяском —
каб іх ніхто не мацаў языком!

У тым пяску чаго там ні было,
капніся толькі —
што там ні ляжала:
губны гармонік, што рыпеў іржава,
якоесь масла, што перацвіло,
і каляровае — навошта? — шкло...

І кожны раз трапляўся мне ў руку
то грэбень, то патрэсканы люстэрак.
Каб ведалі, ну колькі я бутэлек
навыграбаў у рыхлым жаўцюку —
уліў бы шнапсу цэлую раку!

Але галоўнае — былі замкі,
я не адну іх, пэўна, сотню выбраў —
любых памераў, марак і калібраў...
Музей замкоў! Ну вось вам чужакі...
Аж думаць млосна — во разлік які!

Не проста так прыйшлі — глядзіце вы.
Прыйшлі да нас з уласнымі замкамі.
Хацелася надзейнымі рукамі
прымкнуць і свірны нашы, і хлявы —
схаваць старанна скарбы ўсе ўдавы...

Лёс літасцівы — што там было брацъ?
Хіба лахман на закурэлай печы.
Ці, можа, несусветную галечу
у свірне тым са смакам запірацъ?
Стаю, а вочы памяці гарацъ...

На гэтым месцы, дзе ні глянеш, спрэс
растуць грыбы паштучна і папарна.
А пада мной маўчыцъ мая капальня —
з яе даўно ўжо да нябёс палез
наш жыццядайны беларускі лес.

## ЧАРОМХА
## ПАРТЫЗАНСКАЙ ЗАСАДЫ

Як лапушыцца тут сярод лазы
чаромха пасля буйнага цвіцення.
Якое дзіўнае перапляценне
галля, травы ўзбуялай, дзеразы!

Як незвычайна ўсё-такі плыве
драздова песня мне ў душу з-пад веццяя,
як урачыста ходзіць майскі вецер
па леташняй,
па сёлетняй траве!

І сонца тут, як скончыцца зіма,
не толькі днець — астацца нанач рада.

Што гэта — месца колішняй засады,
ні шыльды тут, ні надпісу няма.

Ніякіх ні адмецін, ні прыкмет
не засталося — дзе яно, былое?
Хіба што дуб яшчэ жыве вайною...
Хіба што дуб — укаранелы дзед.

Праз санцавеі і вясенні гром
яму, відаць, напомніцца ў знямозе:
ляжаць, ляжаць чужынцы на дарозе —
ўсе тыя,
хто прыйшоў да нас з мячом...

Хаваючы маўклівыя пасты,
вы дула кулямёта ахіналі,
вы, нібы дзот зялёны, паўставалі —
суровыя дрымучыя кусты!

Вас выпрабоўваў асабіста лёс,
уклаўшы ў сэрца нораў прывітальны...
Ды хіба можна быць сентыментальным
да тых, хто попел па гасцінцах нёс?

А ноч зямля таму перамагла,
што днём чаромха кулі калыхала,
святым агнём раптоўна палыхала
і ў той жа момант — велічна цвіла!

## ВУЧНІ ЛЯСНОЙ ШКОЛЫ

І хоць надыходзіла
золкая восень
і вецер гудзеў
вершалінаю гучна,
садзіліся цесным паўкругам
ля сосен
з худымі і беднымі тварамі
вучні.
Хацелася думаць на ўроку чытання
пра хлеб даваенны,
цукеркі і сушкі...
У класе прасторным —
на хвойнай паляне —
журботна спявалі
асеннія птушкі.
Як шчыра
настаўніцу дзеці страчалі,
з якім узрушэннем
і смелым запалам
з вялікага пня,
бы са сцэны, гучалі
натхнёныя, гордыя
вершы Купалы.
Бясконцай была
да вучобы ахвота,
хоць вечна трывога
брыла недалёка.

Трашчаў сярод лесу
сігнал кулямёта,
а гэта канец азначала
урока.
Стралялі навокал
зусім не з рагаткі...
Пасля перажытага страху,
туляння
у іх пачыналіся зноўку заняткі
у хвойніку новым,
на свежай паляне.
І хоць схаладзела
іх небная зорка,
страчалі настаўніцу
ўсмешкай, як кветкай...
А потым па ёй яны плакалі горка,
калі не вярталася
з цяжкай разведкі.

## МІНСКІ «КАЦЁЛ»

Стаялі вёскі моўчкі, як калекі,
глыталі попел гарады-пустыні.
Звярэючы ўсё больш, звышчалавекі
дапальвалі апошнія хатыні.

Ды вызваленне спілі нашы стрэхі,
за тры гады ўчарнелыя ад жалю,

хоць фанабэрна бітыя стратэгі
спыніцца тут надоўга меркавалі.

О як мы прагна ў гэты дзень вялікі
пілі паветра запаветнай волі,
калі аднойчы вогненныя пікі
заслон нямецкі грозна распаролі.

Штораз, штораз у гэтым паядынку
бяссільна млелі ворага атакі.
Дывізій нашых мёртвыя абдымкі
адчулі ўжо ўтрапёныя ваякі.

І засвяціла ў сэрцы суцяшэнне,
хоць над зямлёй дыміўся едкі порах:
не хлопцы нашы рвуцца з акружэння,
а задыхаецца ў «катле» — наш вораг!

* * *

Пра дзіўны лёс расказвай, ветэран,
вядзі сваё далей апавяданне.
А кожны сказ ці слова — дакрананне,
балючы дотык да шчымлівых ран.

І твая памяць — як пякучы ёд.
Тваё былое — колькі дзён пасекла!
Скажы, скажы, праз якое пекла
прайшоў і ты, і цэлы наш народ.

Табе б узнесці помнік пры жыцці...
Хоць ты жывы як песня. Не музейны.
Ды выгляд вельмі ўжо аранжарэйны
у тых, каму няма і дваццаці.

Вясёлы ўсё ж асіннік малады —
дагледжаны, фасоністы і кідкі...
Тут слухаюць цябе з маленькай скідкай
на тваю старасць, на твае гады.

У вочы чорна-мутныя бядзе
дасюль ніхто з іх не глядзеў ні разу.
Ім ад твайго не страшна пераказу.
Але расказвай. Веру: западзе...

* * *

Былыя сведкі гулкіх завірух,
часоў ваенных сціплыя ахвяры,
у вас, хоць позірк назаўжды патух,
такія засяроджаныя твары.

Век грозны перад вамі як жывы
баліць штодзённа цяжкімі гадамі.
О колькі думак заснавалі вы
бяссоннымі глухімі вечарамі!

Каб думкі тыя, думкі ўсіх старых,
звязаць канцамі... Падлічыце сцісла,

якая даўжыня была б у іх.
Падумайце, якая б нітка выйшла.

Яна магла б — мне хочацца сказаць,
не памылюся, не, калі скажу я,—
мільёны раз Зямлю апаясаць
або дастаць галактыку чужую.

## ТРЭЦІ ПРАТЭЗ

У Прусіі, так нечакана,
зваліўся я г о н ы снарад...
Знявечаны, забінтаваны,
ляжаў ён, маўклівы салдат,
у сцятай палаце шпіталю,
адчуўшы ўсю горыч ужо.
А белыя вусны шапталі
ў паўночнай гарачцы:
«Няўжо?..»
Ды сам сябе ўрэшце
суцішыў:
«Ці варта
расклейвацца мне?
Падзякаваць лёсу, што выжыў —
бывае і горш на вайне».
Сказаў ён назойлівай скрусе:
«Як здань,
ты не стой пада мной.

Я ўсё-ткі
хадзіць навучуся
па роднай зямлі —
на адной...»
І лёсу не пакарыўся,
бы сілы адчуўшы прыліў.
Штодзень па двары мітусіўся,
за статкам
увішна хадзіў.
Спяшаўся на золку бяссонным
у поле,
на рэчку,
у лес...
Амаль не садзіўся.
І сёння
даношвае трэці пратэз.

* * *

Ты, вайна, мела ўважлівы зрок,
як была яшчэ першай сусветнай —
павярнула ў знаёмы наш бок
ноччу чэрвеньскай, цёплай і светлай.

Ты запомніла, мусіць, тады,
зноў каб здзейсніць благія намеры,
нашы вёскі і гарады,
нашу браму і нашы дзверы.

Хоць, здавалася, трапіць да нас
было цяжка — мы іншымі сталі.
Свае цёмныя дзверы ў свой час
новым колерам зафарбавалі.

Ты, вайна, зноўку страшыш агнём,
рассылаеш па свеце трывогу.
Толькі веру я ноччу і днём:
ты не ўспомніш былую дарогу.

Ты ж такая старэнькая ўжо,
аж здаецца мне: адваявала...
Што табе яшчэ трэба? Няўжо
табе гора мінулага мала?

## РАНІШНІ АПТЫМІЗМ

Ачнуўшыся, ускрыкнуць, як дзіця,
разнасцежыць свае ўсе вокны звонка.
І слухаць,
як уласнага жыцця
зноў шалясціць чарговая старонка.
І адчуваць,
як сонейка ўгары
з неверагоднай ласкаю ірдзее.
І ведаць:
ёсць за шыбамі сябры.
І верыць,

што збываюцца надзеі,
што свята зноўку здзейсніцца для крыл
і думак тваіх выспее сузор'е —
ад нашай Беларусі да Курыл
стаіць такое добрае надвор'е!
Заўважыць раптам,
што змяніўся свет
і знікла тое,
што смылела ўчора.
І не крычаць з разгорнутых газет
бяда Лівана,
гора Сальвадора.
Дзе грукацела, стала цішыня.
І ўсе вакол усмешлівыя здымкі
цяпер,
пачаўшы з сённяшняга дня,
засведчаць чалавечыя абдымкі.

* * *

За кожнай травінкаю —
рух цудадзейны,
за кожнай дажджынкай —
сваволле стыхіі,
за кожным уздыхам —
бег часу завейны,
за сціцаным сном —
курганоў летаргія.

За сціпласцю кожнай —
ад сонца залежнасць,
за шчырасцю кожнай —
нябёсаў увага,
за шчодрасцю сэрца —
прасторы бязмежнасць,
за кожным спакоем —
планет раўнавага.
За сцятай маўклівасцю —
злая падзея,
за скрухай тваёй —
небыцця недарэчнасць,
за кожнай усмешкай —
стагоддзяў надзея,
за кожным парывам —
учутая вечнасць.

## КАМЕНЬ БАГУШЭВІЧА

Сумысля, можа, колішні ляднік
цябе ўскаціў на радасны пагорак —
бліжэй да сонца і бліжэй да зорак,
нікуды каб з вачэй-нябёс не знік.

Крыху пасля дажджыстыя вятры
з любоўю ўсёй цябе адшліфавалі,
каб на сваім падоўжаным прывале
сцвярджаў пра вечнасць з радаснай гары.

Не выпадкова і не так сабе
ты зрок сялянскі ўразіў пры нагодзе,
і на пачатку гэтага стагоддзя
аблюбавалі з гонарам — цябе...

Вясна тут сёння дыхае ў шчаку,
буяе лапушыста месяц травень —
і ўсё вянчае натуральны камень
са словамі:
«Мацею Бурачку».

Ніхто гадаць не будзе тут, чаму
такі валун узвысіла прырода
і ад сябе і ад майго народа
вялікаму абранніку свайму.

## КУПАЛАЎСКІ РАДОК

Жадаў ён быць і песенным і дзейным,
гучаў як покліч, ранішні гудок,
упэўнены, журботны, веснавейны,
пранізлівы купалаўскі радок.

Як зверху хто яго паклікаў быццам...
На нейкай маладзечанскай вярсце
ён змог крыніцай да людзей прабіцца,
каб слёзы ўмыць краіне-сіраце.

Лугоў, палеткаў увабраўшы водар,
напоўнены расою і бядой,
ён акрапіў наш беларускі гонар
любоўю слоў, нібы жывой вадой.

Сваёй найбольшаю узнагародай
лічыў паветра роднага глыток.
Бяссрэбранікам быў і ёсць заўсёды,
адкрыты ўсім, купалаўскі радок.

Як журавель, ён праплывае плаўна
над нашай мовай, пахкай і густой,
свабодны ад складанасці уяўнай
і вольны ад манернасці пустой.

## СПАГАДА

*Светлай памяці Еўдакіі Лось*

Прыспешвае свой бег няспынны час,
пакінуўшы пагляд у чорнай раме...
З тым адчуваннем размаўляю з Вамі,
што вось пачую колькі слоў ад Вас.

І засвітаюць прыцемкі душы,
змякчэе боль, бы снег у дзень адлігі.
Вы тут, дзе вашы вобразы і кнігі,
Ваш голас тут, па гэты бок мяжы.

Насуперак уладзе нематы
жывыя словы чую ў калідоры:
«Малодшы творца нешта не ў гуморы...
Што новага? Над чым працуеш ты?»

Я знаю, гэта не звычай пусты —
такая вось адданая увага,
яна — як неспатоленая смага
усёй душы... «Над чым працуеш ты?»

Ці кожны зможа запытацца так,
са шчырасцю такою і без позы,
з такой усмешкай,
што лагодзіць позірк:
«Ну як жывеш ты і на сэрцы як?»

Зусім, зусім няма дзяжурных фраз,
бо імі нельга выказаць параду,
бо імі нельга апрануць спагаду —
не згасіш боль пялёсткамі прыкрас.

Напэўна, не патрэбна дабрыні
фасоніцца і пышна выстаўляцца.
А любяць словы злёгку пакрыўляцца,
калі той дабрыні няма ані.

Ва ўсёй істоце вашай — дабрыня.
Пагэтаму — гулі апладысменты,
хінуліся паэты і студэнты,
штодзённа пашыралася радня...

Вы клікалі да сэрца і стала
заўсёды з непасрэднасцю сялянскай.
І Ваша непрытоеная ласка
з далёкай вёскі на праспект прыйшла.

Яна прыйшла даверліва адтуль,
дзе ліпы веццем хату агарнулі,
дзе ўнукаў песцяць сціхлыя бабулі,
гады і крыўды ссыпаўшы ў хатуль.

І Ваша чуласць прыплыла сюды
з часіны даўняй, жорсткай і няўмольнай,
дзе продкі ратаваліся супольна
ад хіжай і няпрошанай бяды.

Ваш нораў — гэта неразмыты след
і знак спрадвечнай ветлівасці нашай —
ісці ў жыцці заўжды з чужой паклажай
глухіх сумненняў, радасцей і бед.

Мой лёс для Вас быў асаблівы груз,
быў з'явай асаблівага карпення:
Вы мне далі сваё благаславенне —
пуцёўку у пісьменніцкі Саюз.

Яна, рэкамендацыя, была
не нейкай там прэстыжнаю паперай.
Яна была мне спадарожнай верай
у моц свайго нясмелага крыла...

Не верыцца ў няўмольную мяжу —
няўжо яна між намі ледзянее?
Я Вашай неўвасобленай надзеі
сваёй нягучнай моваю служу.

Вядома, што не ўсё сказаць змаглі,
не ўсё аддаць. І вось з тае прычыны
хацелася б сягоння нейкім чынам
Ваш голас спеўны доўжыць на зямлі.

Бруіцца песня зычная з імжы
крыніцаю, што ў свет імкнецца мілы.
На Вашых кнігах не бывае пылу —
сказаць пра гэта могуць стэлажы.

Што зык той песні тройчы уваскрэс
у снах салоўкі, у гудзенні сосен,
у стракаценні коніка пад восень —
раскажа каралішчавіцкі лес.

Іду я ў памяць і ў сваю любоў
і сумнае канчаю прысвячэнне.
І адчуваю навакол свячэнне
спагадлівых і добрых Вашых слоў.

# ЖНІВО

Любоў, надзея, вера — тры кіты
трымаюць груз майго быцця зямнога.
Любоў, надзею, веру — тры шчыты
бяру з сабой штодзённа я ў дарогу.

Ты песняй сваю долю узвяліч,
такая доля — не паўночны ветах...
Любоў, надзея, вера — даўні кліч
жыве, пульсуе ў неспакойных венах.

Ды недзе там, унізе, пад карой,
на самым дне,
на самым цёмным сподзе,
журба, і роспач, і сумненняў рой,
якім не скажаш: адступіце — годзе!

Яны не вечна, беспрабудна спяць,
часова спяць,
як плаваеш у марах.
Яны аднойчы млосна зашчымяць,
зрухнуўшыся ў шматлікіх капілярах.

На нейкі момант блякне сінява,
хоць гэты міг і рэдкі і кароткі...
Мы дажылі да позняга жніва —
ці тое жнём, што высявалі продкі?

Наш ураджай і шчодры і скупы,
ён спеў марудна, доўгімі вякамі.

Мы звозім лапушыстыя снапы,
дзе колас пераплёўся з асцюкамі.

Хай гены нашы — добрыя ганцы —
нясуць учынкаў светлых адгалоссе.
Мы сейбіты. Не толькі мы касцы.
Хай будзе чыстым новае калоссе.

## БЕРАГ

На цёплую гальку ўзбягае вада.
Адкоціцца хваля
І згіне раптоўна.
Адзін толькі пошчак.
А ёй усё роўна.
А ёй свайго лёсу зусім не шкада.

Рассыплецца хваля —
і радасна ёй.
Абмацаны бераг — дасягнута мэта,
хоць міляў патрачана столькі на гэта,
а вынік зрабіўся дзіцячай гульнёй.

Узвысіўшы поўню гадоў над сабой,
шчасліваe,
хоць нарадзілася ў бедах,
імчыцца на свой затуманены бераг
майго пакалення чарговы прыбой.

Спяваць яму хочацца небу ўсяму,
даверыцца шуму дзевятага вала.
Ды гулкага пошчаку, мусіць, замала,
адной толькі пены замала яму.

Бясконцыя баржы бярвенняў і пліт
штодзённа б яму валачыць на ўзбярэжжа,
іначай — не ўздыміцца памяць, як вежа,
над грэбенем часу, а кане ў нябыт.

## КАМПЕНСАЦЫЯ

Бабулькі,
вечна думаю пра вас,
і лезе ў галаву адно і тое...
Вас так караў нелітасцівы час,
вас так абдзельваў песняй маладою.

Блакады, ночы ў золкім бліндажы,
лёс безгалосны смутнай паланянкі...
Ляжаць і зараз вусцішна ў душы
на самым відным месцы пахаванкі.

Што маеце за свой пакутны шлях?
Ці ёсць унукі — добрыя анёлы?
Хоць зараз шчасце месціцца ў руках?
Утулак ваш апошні ці вясёлы?

Зноў у краіну старасці іду
праз гушчу дзён і будніх і суботніх.
Чытаю зноў я даўнюю бяду
у позірках спакойна-бестурботных.

Сагрэты небам бацькаўшчыны дах,
штодзень дымяцца шчодрыя застоллі...
А мне здаецца: ні капейкі — жах! —
дасюль яшчэ не выплачана долі.

А мне здаецца, што за гэткі боль,
за лёс, працяты і бядой і смагай,
за гэткую страшэнную юдоль
не заплаціць ні цішынёй, ні ўвагай.

А мне здаецца, што плаціць яшчэ
нам, шчаслівейшым, ўсё-ткі давядзецца,
што боль чужы вось-вось пераццячэ
у нашы сэрцы — гэтак мне здаецца.

Пакрыўджаных ушанавалі б так —
на ўзроўні самай велічнай павагі.
Было б такое ні чым іншым, як
адзнакай справядлівай раўнавагі.

## БЯССОННІЦА СТАРЫХ СОСЕН

Спакой лясны ніякі гук пабочны
не парушае — грай птушыны сціх.
Ды вось упарта ў гэты час паўночны
сон запаветны не ідзе да іх.

Вакол ні гаманы грыбной, ні шуму,
барвовы бляск на небасхіле згас.
Якая недадуманая дума
запаланіла іх у гэты час?

Чамусьці голле ўздрыгвае да рання,
хістаецца, калышацца ледзь-ледзь.
І ў цішы цёмнай гэтулькі ўздыхання —
аб чым яно, нам цяжка зразумець.

Мо крыўды пералічваюцца веку —
свайму і веку, што над ім грыміць.
Як кожнаму старому чалавеку,
відаць, і ім мінулае шчыміць.

Усё гайдаюць боль пад сарцавінай —
асколкі там ад колішняй пары —
і пеленгуюць чуйнай вяршалінай
цяперашнія золкія вятры.

## БЫЛАЯ ВУЗКАКАЛЕЙКА

Згарэлі шпалы —
смаляныя дроўцы,
як маразы пад шыбай гасцявалі.
А рэйкі ўсе
прадбачліва вяскоўцы
сабе на склеп паціху расцягалі.
І толькі насып,
што прабраўся логам,
гарбее зараз пад сасной дзябёлай.
Хоць і накрыўся векавечным мохам,
сям-там жаўцее
лысінаю голай.
Бывае, сёння,
разгавеўшы чаркай,
згрыбелы дзед,
па прозвішчу Кірыла,
раскажа,
што калісьці цыркулярка
на гэтым месцы,
як ваўчыца, выла.
І кайзераўскі дбайны паравозік,
на цэлы бор
раскідваючы попчак,
не нейкі там адзін
маленькі возік —
ґару валок расфасаваных дошак.
На шпалы слёзы капалі жывіцы,
фантаніў дым угору звар'яцелы...

О лес,
ушчэнт цябе не раз чужынцы,
як і народ мой, вынішчыць хацелі.
Як і народ мой,
ты спазнаўся з горам
і з чорным днём бязлітаснай навалы.
А ты шуміш,
ізноў пявучым голлем
амаль усе запоўніўшы прагалы.

## МАЛАДЗЕЧНА

Такія вакол камяніцы,
асфальтам калдобы загаціў.
А ранг абласной сталіцы
аднойчы ты ўсё ж такі страціў.
Прычына сур'ёзная, мусіць,
была тут, няйначай была тут.
Ды ты не застаўся ў скрусе
ад гэтай балючай страты.
Хаця вышыня табе люба,
калі ўжо такая гаворка:
балконы, фабрычныя трубы
даўно шыбанулі на ўзгоркі.
Твой пошчак індустрыяльны
грымотна плыве у нябёсы.
Заўсёды настрой прывітальны —
ніякіх прэтэнзій да лёсу.

Дружбацкі загадвае нораў:
з суседзямі — па-таварыску...
Будаўнікоў і шафёраў
штодзённа падкідваеш Мінску.
Чыгуначнік светларусы
на захад паглядвае зноўку,
благаслаўляючы грузы
ў замежную камандзіроўку.
Сады, беласнежныя ўранні,
аддадзены пчалінаму гуду.
Вясёлае скрыжаванне
машын і вясковага люду,
цяперашняй былі і казкі,
падзей і далёкіх і блізкіх,
павеваў сваіх, нарачанскіх,
і мокрых вятроў прыбалтыйскіх.
Ты — стрэча цэменту і лесу,
малечы і ластавак порсткіх,
спатканне глыбокага сэнсу
слоў рускіх, тутэйшых і польскіх.
Паслухай прызнанне скупое,
мой горад — і юны, і сталы.
Высока звініць над табою
зямляцкая песня Купалы.

## ШЭСЦЕ ПЕРШЫХ ПРАТАЛІН

Учуўшы голас зыркага паветра,
па сцятай замарожанай раллі
яны брыдуць услед за цёплым ветрам,
малюсенькія лапікі зямлі.

І вось парой адліжнаю, на золку,
яны, хоць і спяшаюцца пайсці,
нібы гракі, рассядуцца на ўзгорку
і будуць проста на вачах расці.

І хваляваўцца ім няма прычыны,
пакуль што можна сонца паспытаць.
Да самай блізкай палявой лагчыны
ім надта лёгка зараз завітаць.

Праз нейкі тыдзень скончыцца прагулка —
і дойдуць зноў да чалавечых рук.
Заб'ецца ў хлебароба сэрца гулка,
калі над вёскай зазвініць жаўрук.

Ад шчасця скалыхнецца мімаволі,
пранізанае блікамі святла.
Раскінуцца па ім, нібы па полі,
шчымлівыя праталінкі цяпла.

Увойдзе ў кроў святочная падзея,
пракоціцца па целе ўсім уздым —
турбота ў сэрцы буйна зарунее,
закаласіцца жытам маладым.

## ПАЧАТАК

Нарэшце запаветны час прабіў —
узняў зеніт блакітную паходню.
І салаўі апавяшчаюць додня
узлёт травы, амаладзенне ніў.

Сцяплелы дол варушыцца наўкруг,
хоць вецер крутануўся недарэчы —
арктычная начная халадэча
зямнога ўлоння забівае дух.

Ды ёй ніяк не заглушыць парыў,
узрыў жыцця—жыццё ў нябёсы пойдзе.
Лагодны поўдзень, прамяністы поўдзень
наскрозь карэньчык кожны азарыў.

І дружна пакідаюць схоў зямны
усцешаныя ландышы лясныя,
увішныя званочкі муражныя,
напорыстыя стрэлкі ярыны.

Якое шчасце — з логава паўстаць,
якая радасць — з сутарэння выйсці
і ўпершыню светла-зялёным лісцем
расчыненае неба казытаць.

Вітаць штодзённа набуханне сіл,
з зямлёй і сонцам чуючы зрашчэнне.
Адказная пара плоданашэння
пасля ўсплыве на млосны небасхіл.

3 Зак. 1068



То гучна нюхае ў вядры,
то зноў рагамі чэша дровы...
Гуляе зрання па двары
чырвона-бурая карова.

Яна так радая вясне,
ажно і тое нават люба,
што гаспадарыць на спіне
вясёлы грак з увішнай дзюбай.

Хай прылятуць і шпак, і дрозд,
і нават жаўранак у госці.
На сотні гнёзд,
на сотні гнёзд
яна адпусціць мяккай поўсці!



Крылатыя на вуснах словы
і пахнуць здзейсненай вясной,
як расцвітае сон ліловы
наўзбоч імшарыны лясной.

Адкрыта ў вочы шчасце гляне,
твой лепшы верш непадалёк,
калі раптоўна на паляне
мільгнецца першы матылёк.

Са сну свайго, бы з тоўстай ваты,
вылазяць мошкі з-пад кары.
А сонца свеціць вінавата,
лагоду цэдзячы згары.

Душа святкуе перамогу,
вітае цёплы лес рука,
хоць недарэчна праз дарогу
мурашка цягне павучка...

## МАЙСКІЯ ДАСВЕЦЦІ

Якія яшчэ былі
горкія дзеці —
зялёныя хлопчыкі мы
і дзяўчынкі,
калі выпадала
малочным дасвеццем
варочацца разам нам
з вечарынкі.
Якой аддаваліся колкай
трывозе,
якую мы песцілі
ўсмешку на твары,
калі так хацелася нам
па дарозе
пациху, пациху
разбіцца на пары.

Як лёгкае цела
ад песні трымцела!
Якія мы чулі
пад рэбрамі стукі!
І як аж да млосці
заўзята карцела
зажмурыцца —
раптам узяцца за рукі.
Было як шчымліва,
было як салодка!
Няўтрымна душу
распірала маўчанне.
І недзе над намі
славіў салоўка
вялікае свята
судакранання.
Былыя дзяўчаткі,
што выраслі з кветак,
вы дзе павілі
свае гнёзды на свеце?
Ну як вам жывецца?
Ці будзіць вас ветрык,
пранізлівы ветрык
майскіх дасвеццяў?

## КРЫНІЧНЫ РУЧАЙ

Не хоча з тым лічыцца,
што мне яе шкада —
ля самых ног імчыцца
крынічная вада.
Слізгае паміж пальцаў,
глытаючы мой цень.
Свой шлях даўно намацаў
спружыністы струмень.
Праз сонца, праз уцеху,
праз боль яго хада...
Навошта столькі спеху,
крынічная вада?
Праз поле, луг і пашу
лягло тваё «гайда» —
ты наша і не наша,
сцюдзёная вада.
Ты шэпчаш вербалоззю,
хістаючы траву:
«Не стойце на дарозе,
не бачыце — плыву!»
Ды мурагом духмяным
твой шпаркі бег шчыміць...
Ты хочаш акіяну
аб чым паведаміць?
З узлескаў жыццядайных,
з усіх лясных палян
якую хочаш тайну
занесці ў акіян?

## ПРЫВАКЗАЛЬНАЯ ПЛОШЧА

Ах, пятніца — такі сумбурны дзень!
Запарылася плошча адвячоркам.
Аж млосна целу, успатнелым шчокам,
хоць майку сваю імпартную здзень.

Узбуджаны, размітусіўся люд,
хвасты ля кас варушацца ўтрапёна.
Заваленыя клункамі пероны.
Трашчыць па швах амаль любы маршрут.

Народ вясковы мчыць на свой бальшак.
Абдымкі-чары гарадской кватэры,
кінатэатры пышныя і скверы
яго не могуць затрымаць ніяк.

Яму чагосьці зноўку не стае,
і дух, як вязень хваравіты, ные.
Падушкаю не трызняць выхадныя,
а ўсё вяртаннем — на кругі свае...

І гэта цяга — як салодкі біч,
што мройна гоніць да былога ганка,
дзе хата маці — вечная буслянка
шле старадаўні ўсемагутны кліч.

## ДЗІВОСНАЕ МЕСЦА

Ёсць месца ў лесе,
дзе на ўсе лады
гучаць нястомна
зычныя напевы.
Ёсць месца запаветнае,
куды
сыходзяцца, нібы на сходку,
дрэвы —
сасна, асіна,
маладым алешнік,
рабіна,
кучаравы вербалоз,
крушына, дуб,
разгалісты арэшнік
і чарада іскрыстая
бяроз.
Зазелянець малліннік
побач рад,
ажына
гэты кут не абмінае.
І ўсіх нарэшце
дзікі вінаград
абдымкамі сяброўскімі
яднае.
Хапае сонца тут
чамусьці ўсім,
вады — зірніце:
лісце лапушыцца!

Тут ходзяць
задаволена ласі,
куніцы, зайцы,
козы і лісіцы.
Навошта лес
куток такі стварае,
што з ім табе
балюча размінуцца,
дзе спынішся —
і млосна заміраеш,
і хочацца
ад шчасця задыхнуцца.
І хочацца
з усімі карыстацца
і вільгаццю агульнай,
і праменнем.
І хочацца —
каб гэта магло стацца! —
зялёным стаць навек
перапляценнем.

## УСТУП
## ДА НОВАЙ ХАТЫ

На два калы прылегла бервяно,
губляючы кару самаахвярна.
Як свежы сыр, бялюткае яно,
густой жывіцай сочыцца духмяна.

Пад кожны ўздых
уздрыгвае ледзь-ледзь
жывой істотай,
што зраклася дому...
Прыемны час
пад сонцам ружавець,
цвярдзець пад сонцам
целу маладому.
Ягоную ты роўнядзь паспрабуй
паверхняй насцярожанай далоні...
А ты, сякера,
мякаць пакаштуй,
адрэж сырую лусту абалоні.
Зноў паскачы — пілікае піла,
на бервяне
павесяліся крышку.
Пад самы вечар
на канцы вугла
сваю ты адсвяткуеш перадышку.
Шчыруй пакуль што.
Твой узмах высокі
сцяплелае паветра палавініць.
Хай гулкія працягваюцца
скокі,
хай кружыцца віхурна
пілавінне,
цярушыцца сняжком пахучым
з рук —
дзьме з-пад пілы
двухбокая завея.

Глядзіш, праз месяц
пяцісценны зруб
на ветрыку сухім запалавее.
А там —
будынак высах і аблёг,
убранзавеў на сонечным пагурку.
Кладзі бярвенне гладкае
на мох,
ступаючы па новаму падмурку.
Дом-прыгажун
з верандаю шкляной
устане цвёрда, статна
пры дарозе.
А побач луг
са свежасцю рачной,
як лес шуміць —
учуеш на парозе.
Куток шыкоўны,
што ні гавары,
уся прырода
тут з табой у змове.
Трава па пояс.
Ягады ў бары.
Сапраўдны рай
самому і карове...

## ЛАЎКА ПАД БЭЗАМ

Мялеюць барозны гадоў на ілбе,
калі ты, пратупаўшы весела лесам,
апусцішся зноўку на лаўку пад бэзам,
якая хоць стыне ў самоце-журбе,
аддана і помніць, і любіць цябе.

На лаўку пад бэзам — тут звычай такі —
паспееш ледзь-ледзь ты на міг апусціцца,
як стануць старанна навокал масціцца
знаёмыя дзядзькі, твае землякі —
і дружна ў паветра палезуць дымкі.

І будуць глядзець на цябе талакой,
як быццам аб'явіш ім дзіўнае нешта,
і хітра прыкідваць: пра што запяеш ты,
лухта ці пальецца шырокай ракой,
свой лёс падасі на талерцы якой.

Тут знаюць усё пра цябе — не мудры,
даўно за табою ўсе сочаць вяскоўцы.
Наскрозь цябе бачаць праз кніжныя слоўцы,
праз слой каляровы знешняй кары...
Ты лепей па-людску загавары.

Слоў танных і пышных не сып медзякі.
Усё-ткі жывуць тут тваім інтарэсам —
ты гэта адчуеш на лаўцы пад бэзам.
Ты — ў цэнтры. Наўкруг, па абодва бакі,
апора і сіла твая — землякі!

# НА ТРАКТАРНЫМ СТАНЕ

Пакуль не з'явіўся механік яшчэ
з канторы — прыемна прысесці на горцы...
Былыя, такія знаёмыя хлопцы.
Іх гутарка, моцная жартам, цячэ
і грэецца злёгку на ранішнім сонцы.

Напарнікі, першыя другі-сябры!
Як вы валасамі нашмат паяснелі,
аселі і, нібы дубы, пагрузнелі
з той колішняй нашай далёкай пары,
як неслі юнацтва праз будні-нядзелі.

Любімцы варон, і пагоркаў, і траў,
я быў сярод вас тады самы найменшы,
малодшы намнога. Малодшы — і першы,
хто вершы вам раніцай шчыра чытаў —
о як вы захоплена слухалі вершы!

Як быццам не ведалі пыльнай сяўбы,
як быццам нічога не існавала:
ні бруду, ні зломленых ноччу адвалаў,
ні едкага дыму, што шпарыў з трубы —
душа ваша ўвагу мне ўсю аддавала!

Скажыце, як многа было перамен?
Якія машыны прайшлі цераз рукі?
На сёдлы да вас ці ўзбіраюцца ўнукі?
Шмат трактараў, мусіць, паклікаў мартэн,
адны вы на вахце дасюль без прынукі.

Мяне вы ці зможаце сёння прыняць?
Нас дружба далёкая ці пагаджае?
Між намі аж дваццаць стаіць ураджаяў,
не мне яны — вам урачыста шумяць,
хоць шум той... пад песню сабе прызвычаіў.

## ДАНІЛА

Усе пасляваенныя гады,
хоць і лічыўся быццам у аратых,
зімой і летам вандраваў па хатах
ён з кельмаю. Снаваў сюды-туды —
спакойны, ціхі і камлюкаваты.

Дзе б след яго ні кінула пята,
ён быў усюды ў кожны міг дарэчы:
валіўся комін, трэскаліся печы,
дыміла закарэлая пліта
ці выгляд печка набыла старэчы.

І штукаваў такі ўжо дымаход,
што комін эканоміў пільна дровы,
агонь не рваўся ўверх, а быў талковы.
І з дымам едкім не было турбот
ні ў зімні дзень, ні ў цёплы дзень маёвы.

Умеў жа неяк — вось у чым тут рэч —
такія ў цэгле ладзіць лабірынты:

пастаў пры печы вёдры і карыты —
і цёплыя! Нашто піхаць у печ!
Вялікі майстар, як ні гавары ты.

І хоць яго даўно ўжо ў нас няма,
гараць як быццам новенькія печкі,
і коміны папыхваюць, як свечкі —
у хатах не кусаецца зіма,
хоць вечарам пастрэльвае ля рэчкі.

І ў вёсцы нашай чуецца не раз,
калі ў канцы зімы крыху змакрэе,
а сонца, знікшы, штосьці не шчырэе:
«Абыдземся без сонца нейкі час —
пакуль што нас яшчэ Даніла грэе!»

## ХУТАР

Даўно вас прывезлі...
Пад скрыпы, пад рыпы
як моцна залезлі
у глебу вы, ліпы!

Не раз вам здалося:
не будзе старэння —
навекі ўпілося
у глебу карэнне!

За век свой ахвоча
шыбнулі пад неба.
І бусел клякоча:
«Мне лепей не трэба».

Стаіць хутарская
дубовая брама,
што ў свет прапускае
дзядулю Адама.

Хоць недзе ёсць дзеці —
як кінуць сядзібу?
Як толькі дасвецце —
хтось грукае ў шыбу.

Мо вецер, мо праца,
што ўслужвае верна...
Узняцца — і брацца
за ўласную ферму.

Не могуць пры хаце
ад голаду плакаць
кот, два парасяці,
карова, сабака...

Пра іх не забыцца
па буднях, па святах —
як крэўнікі быццам,
ступаюць па пятах.

Ён лета й зіму —
у вялікім карпенні.
І, можа, таму
не трасуцца калені...

І ў стомленай цішы
надзеі бяруцца.
І думкі, як мышы,
ў душы не скрабуцца.

Не думайце часам:
за брамаю — драма...
Пакіньце сам-насам
вы дзеда Адама.

А гэта ўсё значыць:
тут цяжка параіць
што-небудзь з'іначыць,
што-небудзь паправіць.

## ЧАТЫРЫ КАРОВЫ

Мне з працай даяркі
прыйшлося спазнацца.
Мне слова «каровы» —
не простае слова...
Было іх у матчынай групе
дванаццаць,

з іх мне прыпадала
чатыры каровы.
Як мог я выконваць
такую паслугу!
Хадзілі ўсе пальцы мае
нарасцяжку.
Прызнацца, было мне
да чорцікаў туга,
ды думаў:
адной маёй маці —
зацяжка.
Хадзіў па кароўніку
цэлымі днямі
пад назіркам здзіўленым
цёткі Наташы.
З бясконцымі мухамі
і аваднямі
чатыры каровы
прыходзілі з пашы.
Я іх сустракаў
ганарова-прыстойна,
я цёплыя словы ім
ціхенька баіў.
Пасля заганяў,
разамлелых,
у стойла,
а потым —
салідна вядром барабаніў.
Стаялі каровы.
Хвіліны ляцелі.

4 Зак. 1068

За працу было мне ўсё ж
боязна брацца.
Чатыры каровы
ніяк не хацелі
даверыцца мне,
даяру-навабранцу.
Чамусьці рыкалі
і што было сілы
гайсалі па стойлу,
нібы на пажары.
Сумысля
нагамі наўзбоч мітусілі
і білі хвастом не па мухах —
па твары.
Ад крыўды і болю
хоць капалі слёзы —
пад бокам іх кленчыў,
нахмурыўшы бровы.
Канчаўся абед.
Выганяў за бярозы
няўдзячныя тыя
чатыры каровы.
І помню пасля ўжо:
па пашы я крочу,
увішна
кіёк сабе рэжу яловы.
А мне пазіраюць
расчулена ў вочы
з даверам і ласкай
чатыры каровы.

## РОДНЫ ПАДВОРАК

Ажно баюся завітаць сюды,
даймае цішыня пытаннем «Хто ты?».
Пануе дух свабодны лебяды
і крапівы, што ўзлезла на вароты.

І не сабака лашчыцца ля ног,
высока ўгору лапы выкідае —
узвышана-рагалісты быльнёг
здарожаныя ногі абдымае.

І цягнецца дзядоўнік да аблок,
даўно пад лісцем пахаваўшы мяту.
Адна затрымка, што стары замок
яго дагэтуль не пускае ў хату.

Адна і тая ў яблыні мальба:
«Перасадзіце — мне тут нецікава...»
Як тут зліліся сонца і журба,
як тут перапляліся боль і травы.

## ВЯСКОВАЯ ПЕНСІЯНЕРКА

Трымаючы вострую цёрку,
вясёлая і гаваркая,
увішная, жвавая цётка
начальства сваё сустракае.

І глуха, як быццам спрасоння,
зноў круціць старую пласцінку:
«Штось не выпадае мне сёння
на працу ісці, брыгадзірку!
Ты скажаш:
пры добрай пагодзе
мне падта ўжо мілая лаўка...
Даўно ўжо была ў агародзе,
і дома — такая няўпраўка».
І хоць адмаўляецца шчыра,
ёй робіцца раптам нялоўка.
І кажа свайму брыгадзіру:
«А сена
дасі на кароўку?» —
«Ах, цётка!
Ну што за размова.
Ды гэта ж —
звычайныя справы.
Маё брыгадзірскае слова:
з машыну падкіну атавы!»
Блін з'еўшы гарачы
са сподка,
кабет напаткаўшы суполку,
увішная, жвавая цётка
усё-ткі ідзе
на праполку.
«Такі чалавек харошы!
Такое ў яго цярпенне...
Іду працаваць не за грошы,
а каб супакоіць сумленне».

* * *

Заціснуўшы кій у руку,
напоўніўшы думаю бровы,
штось чэрціць на жоўтым пяску
жанчына ў чаканні каровы.

На лаўцы дубовай — адна,
і шум не даймае ніякі.
Старанна стварае яна
адной ёй вядомыя знакі.

Бы знікла жыцця даўжыня,
зматалася долі вяроўка —
на схіле вялікага дня
маленства вярнулася зноўку!

Мо пад шамаценне бяроз
шчаслівы, а болей трагічны
на доле разгортвае лёс,
яго паказаўшы графічна.

І мо вечаровай парой
пад жоўтаю градкаю кропу
на міг уявілася ёй
нязнаная карта Еўропы,

дзе можна на нейкай мяжы
журботныя месцы пабачыць,
расставіць кіёчкам крыжы —
сыноў тры магілы пазначыць.

Схіліўшыся ціха набок,
нячутныя шэпчучы словы,
варушыць сыпучы пясок
жанчына ў чаканні каровы.

## ДОМ СА СКІДКАЙ

Калісьці ўзнікшы з музыкі пілы,
кірующца драўляныя вуглы
у схоў цагляны — глуха-крапасны...
Скрабецца кельма
пяты выхадны.
Пад цэглай той
у колішняй сцяне,
пад цэглай той
у звонкім бервяне
вякуюць промні ці адной вясны,
цяпло былое і былыя сны.
Стаіць бабулька тут, непадалёк,
апёршыся на тоненькі кіёк.
Узняўшы вочы бляклыя свае,
глядзіць,
як хату маладзяць яе.
Такая хата ладная была —
аздоба, гонар цэлага сяла.
Ды ў ёй, апроч ката
і павукоў,
ні родных,

ні далёкіх сваякоў —
каго — хвароба...
А каго — вайна...
Была бабулька, нібы слуп, адна.
А хата — звон.
Хоць пад вянец — вянцы...
«Знайшліся во прыстойныя купцы.
Вуглы прыгледзяць,
заадно й мяне —
была ж я памяркоўная ў цане...
Хай з'явіцца
пад столлю весялосць —
галоўнае,
што мне пакойчык ёсць...»
Адразу павышаецца настрой,
і хочацца пажартаваць старой:
«Ці знае ўсё ж
будыніна мая,
што ў кватарантні выбілася я».

## НАСУПРАЦЬ МІКРАРАЁНА

Паветра
гудам з раніцы прашыта.
Паўзе салярні пах
ва ўсе прагалы.
Стаіць і слухае
штодзённа жыта,

як уздыхаюць
побач самазвалы.
Як кельмы б'юць
аб сцены стоязыка,
трашчыць
электразварка несціхана,
транзістар — нефасоністы музыка —
звініць, пяе ў абед
у будцы крана.
Стаіць,
бы думае аб нечым жыта,
густым калоссем
гледзячыся ў неба —
аб тым мо,
што ўсё лепшае пражыта
яго старанна,
працавітай глебай.
Ці здзейсніцца
чарговаму ўраджаю?
Ці завітае плуг
хоць раз на пожні?
А што калі — мо жыта разважае —
гайдае зараз ураджай апошні?
І не дасі
ніякай, мусіць, рады,
не знойдзеш тут
ні ўцехі, ні збавення.
Шырокая цагляная армада
паспешна
развівае наступленне.

* * *

Чаму так робіцца нялоўка,
не па сабе бывае нам,
як навагоднія паштоўкі
падпісваем сваім сябрам.

Калі мы, быццам маладыя,
без лішніх цяжкасцей — уміг
назычым горы залатыя
і безліч радасцей зямных.

Такое адчуванне, нібы
паводка слоў — напаўмана,
і пажаданне наша — з ліпы,
якому проста грош цана.

Маўляў, ну што ж, і нам, дарослым,
прыйшло пацешыцца хоць раз.
А тэкст узрушана-узнёслы —
святочны гэта рэверанс.

Скажыце, што ўсё гэта значыць?
Няўжо свой разгадалі лёс
і выпадковасцям удачы
даўно не верым усур'ёз?

Дзень будучы — намаляваны:
усё наперад можна знаць.
І гэтак шчасце спланавана,
што ні прыбавіць, ні адняць.

## СЯБРУ

Хадзілі мы поруч
парой яснавокай.
Я знаю: ты побач,
зусім недалёка —
за момант адзіны
ці, можа, за нейкі
разлёт паўгадзінны
вясёлай шасейкі.
Як хочацца спульна
па статусу брацтва
адведаць агульныя
мары юнацтва!
Прайсціся па следу,
дзе песня і слодыч...
Хачу — і не еду.
Я знаю: ты побач —
за момант адзіны
ці, можа, за нейкі
разлёт паўгадзінны
вясёлай шасейкі.
А лёс калі ўзычыць
раптоўную горыч —
цябе я не клічу.
Я знаю: ты побач.
Пад ветрам разлукі —
уцехі і страты.
Жывём. Свае рукі
яднаем абстрактна.

## БАЛЬНІЧНЫЯ САНІТАРКІ

Там, дзе бяда глядзіць цераз акно
на згушчаныя восеньскія хмары,
там, дзе, бывае, сонца не відно,
ёсць многа так кабет з сялянскім тварам.

Зусім не цяжка тут убачыць іх —
яны з такімі добрымі вачамі!
Ля хворых, нібы ля дзяцей малых,
сядзяць яны бяссоннымі начамі.

Сляза на вочы часам набяжыць —
ім так і скрушна стане і балесна.
Як быццам хочуць гора пераажыць
з тым, хто няроўна дыхае — сумесна.

Іх лёс — ля гора быць непадалёк
паводле звычкі колішняй вясковай.
Разумны памяркоўны халадок
іх не крануўся ў службе шматгадовай.

Калі шчымяць нацельныя бінты,
душу бінтуюць поглядам і словам.
Пазначаныя метай дабраты,
нясуць свой крыж жаданнем пажыццёвым.

## ШАФЁРЫ «ХУТКІХ ДАПАМОГ»

Стаяць, хоць гэта ім нязвычна,
стаяць да часу, да пары.
На стоеным двары бальнічным
маўчаць іх шпаркія «О — З».

Стаяць, не ведаюць як быццам,
прэч гонячы вачэй прыжмур,
як доўга сёння прадыміцца
іх выпадковы перакур.

На гулкі дол, прадзьмуты ветрам,
кладзецца снег ля самых ног.
Гучыць у выстылым паветры
немнагаслоўны дыялог.

Сышліся ў цесны круг адразу,
размову ціха завялі...
Такая вось начная паўза
яшчэ ці здарыцца калі.

Бо ведаюць: пачнецца скора
цяжкая служба мітусні.
Іх яшчэ цёплыя маторы
не давяраюць цішыні.

Няма сягоння ў іх адгула,
не бачна стомленасці ў іх,
бо ведаюць: бяда заснула
не моцным сном — на нейкі міг.

## ПОЗНЯЕ ДЗІЦЯ

Яно ўзышло на сонечным прасцягу,
на небасхіл наклікана ўсплыло,
калі ў бацькоў даўно ўжо раўнавагай
лягла глухая сталасць на чало.

Як госць забыты, шчасце прыблудзіла,
і час на момант супыніў свой бег.
Там, дзе маўчанне стомлена хадзіла,
прарэзаўся, рассыпаўшыся, смех.

Надзея сон прагнала непрабудны,
звініць душа да самазабыцця.
О як ты ззяеш, асвяціўшы будні,
у гэтай хаце, позняе дзіця!

Праз нейкі час, узбегшы на пагорак,
адчуеш неба там з усіх бакоў.
Ты будзеш грэць сцюдзёны адвячорак
сваіх шчасліва-сцішаных бацькоў.

І хоць гады іх сціснуць лёгкім прэсам,
пацягне сцяцца ў акружэнні зім,
ты будзеш шчодра слаць праменні ім,
калі ўжо сонца згорнецца за лесам.

Успыхнуўшы, штодзень свяці сабою!
Аддана будуць, век абраўшы твой,
любоў і радасць віцца над табою
і светлы німб журбы над галавой.

## ЭКСТРАСЕНСЫ

Усё ж такі даверлівы наш люд —
у дзіва верыць пад зацьменне сэнсу.
Яшчэ адзін даволі гулкі цуд,
сенсацыя-загадка — экстрасенсы!

Інакш не скажаш — о, чараўнікі,
шчасліўчыкі, любімчыкі прыроды,
шанцуе ж во, займелі дар такі,
як быццам не зямной яны пароды.

Улада іх празорлівая рук
здымае боль адным звычайным рухам.
Адзіны дотык — і не стала мук,
узмах адзін — і выглядаеш зухам.

Не верыцца, як проста ўсё ў жыцці,
як лёгка лёс свой перайначыць люты...
Да рук такіх хоць ехаць, хоць паўзці
захоча кожны, хто спазнаў пакуты.

Ды не пра гэты цуд пішу я верш,
пра іншае зусім — на ўвазе майце.
Хачу сказаць я шчыра і найперш,
што экстрасенсы — гэта нашы маці.

Яны ж, калі пячэ бяда, як соль,
у смутны час, абложыста-няўмольны
і скруху нашу і вялікі боль
утаймаваць сваёй рукою здольны.

Яны ж да нас хоць зблізку, хоць здалёк
прыедуць, прыйдуць, даўшы нам адхланне,
адчай глухі здымаючы са шчок
спагадлівым гаючым дакрананнем.

## ГОД АКТЫЎНАГА СОНЦА

Год актыўнага сонца,
з яснага неба ты выпаў.
Мусіць, да кроплі — да донца
я цябе зведаў і выпіў.

Жарам настырна-бясконцым
доўга сляпіла і ззяла!
З ласкі актыўнага сонца
маці маёй не стала.

Мусіць, на матчыну восень
з ласкі года такога
промняў зашмат дасталося,
выпала промняў замнога.

Перад стыхіяй спякотнай
счахлі апошнія сілы...
Сонца, для маці самотнай
што ж ты раней не свяціла?

## АЎТСАЙДАРЫ

Няўдзячны лёс! Упарты ліхадзей!
Удача мройнай вырвалася птушкай...
Назойлівая фінішная стужка
і зараз не прыліпла да грудзей!

Адхлыне кроў у сэрцы пераможцы,
а наша сэрца страсяне удар.
Мы верылі. Вы бачылі наш твар
крыху раней па стартавай дарожцы?

Гудзі, натоўп — шалёны авадзень.
Далей, далей ад сораму і смеху.
Няздатныя да новага забегу,
павалачэмся, стомленыя, ў цень.

Усёй істотай не аддацца б болю —
упартасць сваю выявіць наўздзіў.
Хоць лёс ганебны не азалаціў —
пакінуў цэлай велічную волю.

Не думайце, што зломлены. Не-не!
Нам напампуе мускулы супынак.
Бязлітасны працягнем паядынак,
каб стала вашай горача спіне.

Вось паглядзім, каму ўсміхнецца выйгрыш
цяпер, хоць вы вясёлыя яшчэ...
Патыліцу вам дымна прапячэ
дыханне наша, як запахне фініш.

І вам цяпер не зробіцца вальней,
бег задыхнецца пад няспыннай вартай.
Заслону самаўпэўненасці вашай
спіхнём убок і кінемся далей.

І фініш, быццам гулкія літаўры,
заб'ецца пульсам голасным у скронь...
Калі-небудзь заплачам у далонь
ад радасці, хаваючыся ў лаўры.

## БЯДА

Не рупілася, як пчала,
і быццам баялася спешкі.
І зараз, каб толькі магла,
няйначай бы рушыла пешкі.
Каб толькі не стаць у жыцці
шчымліваю матчынай ранай.
Ды ёй загадалі: ляці
маланкаю-тэлеграмай.
Душу раздзірала віна,
калі, прыкаціўшы з раёна,
лічы, непазбежна яна
у сумку лягла паштальёна.
Ох, будзе якраз у пару...
Дзесь родныя ўсе на абедзе...
Пасоўвалася пад гару
марудна на веласіпедзе.

$^{1}/_{2}$5 Зак. 1068

І вецер адчуўшы круты,
уцешліва хуткасць збаўляла.
І з радасцю лівень густы
пад ліпаю перачакала.
Далей — не рашалася штось.
Здавалася ёй чамусьці:
забрэша сабака вось-вось,
забрэша — і ў хату не пусціць.
Вачамі, дзе сумны прыжмур,
сваю вырашала задачу.
Дарога — бікфордаў шнур —
канчалася выбухам плачу.

* * *

Падобна ты на месячную ноч
з прыглушаным святлом, расчараванне.
Вакол ні птушак, ні людзей ні звання,
адна прастора бляклая наўзбоч.

Такая ўжо ўтрапёная спярша —
свабодная ад роспачы і ветру,
загушканая стоіцца ў паветры
злягчэлая, як воблачка, душа.

Нядрэмны конік не турбуе слых,
канае ў лісцях пошчак шамацення.
Салодкае, цягучае здранцвенне
адпусціць цела праз кароткі міг.

І ўжо душа да ранішняй зары
не сцятая, не стомлена-глухая.
Бо адчувае: вечнасць патыхае
з тваёй уласнай зоркай угары.

Узрушаны відовішчам нябёс,
благаслаўляеш ноч бесперастанку.
І хочацца хутчэй дажыць да ранку,
каб зноў вяршыць невычарпальны лёс.

* * *

Імчыць рака, віруючы ляніва,
абшар нябёс у завадзі завіс.
Як некалі, з пясчанага абрыва
каменьчыкі ізноў кідаю ўніз.

Кідаю, як хлапчук, без перадыху,
вясёлыя разгортваю кругі,
што ўскочаць раптам і загінуць ціха,
пацалаваўшы хліпка берагі.

Хмялею ад няўтрымнага блюзнерства...
Ад дзён былых пяскі не ўсцерагуць —
і хвалі на ўзбярэжжа да маленства
цераз адну хвіліну дабягуць.

Кідаю я каменні ў плёс дзівосны
з пагорка сваіх ссыпаных гадоў.

Калыхацца і радасна і млосна
душа мая ад сённяшніх кругоў.

Світальны час, па-ранішняму гожы,
успыхне зноў, як непачаты лёс...
Ах, божа мой, навошта я трывожу
спакойнай рэчкі непаўторны плёс!

* * *

Уласны лёс, хоць быў ты і круты
і мне не раз прапанаваў падножкі,
я не крыўдую на цябе ні трошкі.
Мы ж родныя з табою — я і ты.

І не скажу, у чым твая віна.
Якой бы ні была мая аповесць,
у нас адна на ўсе выпадкі повязь,
дарога, хоць і дрогкая, адна.

Не спакушуся на раўнейшы шлях,
на пругкі бег пры ветры, пры рэсорах...
І мне бліжэй пры сонцы і пры зорах
уласных крылляў памяркоўны ўзмах.

Калі ж не так было — віна мая,
што дні мае каціліся няроўна.
Ішоў я збоку. Думаў: ты — вярхоўны.
Але ж вядучы, безумоўна, я.



Пакрыўджаны, ён проста сам не свой —
не спорыцца, не спіцца, не пяецца.
З апушчанаю ходзіць галавой,
не ведае, куды яму падзецца.

Пакрыўджаны, хоць не пакажа слёз,
а будзе вусцішна ўпівацца мукай.
Настолькі дойдзе, што падасца лёс
учэпістай бязлітаснай гадзюкай.

Пакрыўджаны, ён чахне без пары,
руйнуюцца прыніжаныя мары.
Праходзіць год — і ён ужо стары,
як гаспадыня — стомленасць на твары.

Пакрыўджаны, ён прагне нашых стрэч,
яму насустрач, людзі, паспяшыце.
Здыміце камень яму цяжкі з плеч,
паверыць зноў у вас дапаможыце.



І гэта наша жорсткая гульня
нас неабдымна цешыла, як свята...
Не тоячыся нават, сярод дня
мы акружалі хутар, бы салдаты.

5 Зак. 1068

Адным рыўком, сігаючы праз дрот,
ныралі ў сад з адчайна-млосным спехам,
хоць тут жа будка, ці сабачы дзот,
у нас страляла галасістым брэхам.

Расплата ўжо была непадалёк
з хварасцінай: «Хіба вы піянеры?!»
А мы ў той час,
залезшы пад вяршок,
траслі бязбожна яблыкі і бэры.

Ды надта не спяшалася ўцячы,
у прочкі дацца вопытная зграя...
Хіба яна магла перамагчы
лыгастых нас — кабеціна старая?

Усіх не змусіш разам адступіць...
І дробна мітусіўся, небарака,
баяўся ці не ведаў, што рабіць,
ва ўласным садзе спушчаны сабака.

Напакаваўшы пазухі свае,
вясёлыя, мы адступалі скокам.
«Хіба так можна, дзеткі вы мае?
Глядзіце, каб не вылезла вам бокам...»

Было б прасцей, калі б жыла яшчэ —
былую цётку з жалем прыгадаю.
Бязлітасна мне сэрца апячэ
праз тоўшчу дзён бяздушнасць маладая.

І не сабака, не хварасціна
даймае памяць карай адмысловай.
І быццам бок, баліць мая віна.
І думаецца: спраўдзіліся словы.

## ПТУШКА НАД ПОЛЕМ

Лісцікам б'ецца птушка над полем,
крылле варушыцца стомлена-дрогка.
Мо вышыня даставалася з боем,
гордае неба далося нялёгка.

Птушка над полем, тваім утрапеннем
кожная кропля паветра прашыта.
Птушка над полем, навошта здранцвенне —
бачыш, вунь дрэва стаіць сярод жыта.

Птушка над полем, што ўзнікла дасвеццем,
падай уніз, прытуліся да цішы.
І, як заўсёды, лагоднае вецце
кволую гордасць тваю пакалыша.

Сёння, калі мае журацца спевы,
з рання да вечара дыхае восень,
шлю я ўспамін свой пад даўняе дрэва,
дрэва, спавітае хлебным калоссем.

Дрэва, прадзьмутае ўсімі вятрамі,
што вар'яцелі і мройна гулялі,

акальцаванае тымі гадамі,
што ад яго мяне ўбок аддалялі.

Дрэва, дзе першыя гукі і пахі
прагна ўбіраў я душой хлапчуковай.
Грэйся, забыўшы дарослыя страхі,
грэйся пад цёплаю шапкай дубовай.

* * *

Ах, гэта ўсё нічога: гразь, смуга,
наяўнасць шэрасці ў бліжэйшай хаты,
міфічнае чаканне свята,
як некалі ў маленстве — пірага...

Густыя хмары, вецер на буі,
аголеныя дрэвы на дварышчы.
Я ж усё роўна ведаю: засвішчуць,
дзе дзенуцца — засвішчуць салаўі!

Ах, гэта ўсё нічога: штурхатня,
адчужанасць і выгляд нелюдзімы...
Я ўпэўнены, што людзі — пабрацімы,
яны — упарта думаю — радня.

Яны пад ціскам ліпавых прычын,
бывае, міма безуважна пройдуць,
а потым вернуцца, усмешку знойдуць
і для цябе — і цёплую прычым...

Ах, гэта ўсё нічога: даўні боль,
твой нораў ціхі і недынамічны,
твой кволы голас у паветры зычным —
не дай сабе раскіснуць. Не дазволь.

Не заўважаеш козыру свайго.
Ты самы паўнаводны і багаты,
пакуль ёсць вера ў набліжэнне свята
і спадзяванне на прыход яго.

## ВЕЦЕР

Ёсць у цябе заўсёды пад рукой
свой музыкальны інструмент бясцэнны:
таполі, ліпы, лозы над ракой,
вароты, комін, правады, антэны.

Плыве нясцынна музыка варот,
са звонам шыбы здольная звязацца.
Выконваеш без усялякіх нот
бясконцы свой канцэрт імправізацый.

Не хочаш нават паўзу памаўчаць.
Хвалы не просіш нашай узамен ты,
хоць урачыста шумныя гучаць
узрушаных асін апладысменты.



Нявесела чытаць сягоння мне
твае журбой авеяныя пісьмы.
Як марылі, як верылі калісь мы:
не здрадзіць нам удача, не міне
і запаветным ззяннем палыхне.

Што здарылася, дружа? Адцвіло
натхненне? І не грэюць дні благія?
Адкуль такая ў сэрцы настальгія
па тым усім, што некалі было?
Няўжо вясна прыбрала ўсё цяпло?

Шлях трыумфальна не праторыў свой —
твая натура не пускае ў дамкі.
Як некалі, паветраныя замкі
штукуеш угары над галавой,
хоць сум кусціцца жоўтаю травой.

Не ведаеш дагэтуль, небарак,
якому богу і якому сцягу
аддаць сваю нарэшце перавагу —
ці тому, што ў нябёсы кліча так,
ці тому, што вянчае асабняк.

Умее час што хочаш разбурыць...
Нясеш, як крыж найбольшы, раздваенне,
у заўтрашняе верачы збавенне.
Але ці ўмею цуды я тварыць,
каб першы боль твой змог загаварыць?

* * *

«Жыві — кумекай...
Не бяры ўсё каркам,—
яму казалі.— На сумленне плюнь...
Патрэбны чалавек — рассыпся макам,
жадаеш мець — яму ў кішэню сунь».

«Угору лезь і падсыпай у касу,—
яго вучылі,— ў гэтым сэнс жыцця...
На ўсё стагоддзе ты адстаў ад часу.
Не ўмееш жыць.
Ты проста як дзіця».

А ён, хоць зоркі і хапаў не часта,
не крыўдзіўся на лёс свой у тузе.
Пярэчыў непасрэднаму начальству,
як іншыя, выстойваў у чарзе.

Не меў зусім ні сувязей, ні блату,
сваім ён ходам крочыў найчасцей.
Заўжды прыносіў чыстую зарплату,
якую часта траціў на гасцей.

Цярпеў крушэнні, і сядзеў на мелі,
і радаваўся светламу ўсяму...
І тыя, што заўсёды жыць умелі,
бывала, так зайздросцілі яму.

## БІТАЯ ЦЭГЛА

Над велічным пляцам —
разгул вераб'іны.
На месцы палаца
чарнеюць руіны.

Схілілі галовы
астарліва клёны.
Апошняе слова
вяшчаюць калоны.

Ды ветрам прадзьмецца
і ў дождж памакае —
пяском адзавецца
антычнасць такая.

Глядзіць задуменне
вокам заспаным.
Над грудай камення —
цень слыннага пана.

Быў пан, кажуць, вялы —
ні жорсткі, ні люты...
І бачыў, бывала,
людскія пакуты.

Як быццам і ведаў,
што вёска галее.
Ды думаў: ёсць беды,
а ёсць прывілеі.

Сялянскае ліха —
не сёння, не ўчора...
І жыў сабе ціха
наводшыбе гора.

Быў, кажуць, з бародкай
і з ветлівым вокам...
Ды спаў ён салодка
ў няшчасця пад бокам.

Як карай наліўся
люд зрушана-грозны,
той пан спахапіўся...
Было ўжо запозна!

Шаноўны саноўнік,
жыццё тваё збегла.
А ў памяць — дзядоўнік
і бітая цэгла.

## АЛЬПІНІЗМ

Паклон табе, былому дружбаку!
Куды ляціш, мо за табой пагоня?
Мне падаеш не цэлую руку,
а паўдалоні падаеш сягоння.

Як зразумець такі яшчэ прыём —
якая мода новая палоніць?

Што — нашай дружбы зменшыўся аб'ём?
Паменшала яе на паўдалоні?

Кудысьці ўбок паглядваеш крадком,
да вулічнай размовы не ахвочы.
Маленькім, але ўсё-такі лядком
пабраліся чамусьці твае вочы.

Я, можа, не салідна гавару,
жартую ўсё — хранічная хвароба.
Я знаю: спраўна лезеш на гару,
цяпер ты ёсць вядомая асоба.

Схапіў удачы — табе стаўлю плюс,
я шпаркаму заўжды дзіўлюся ходу —
на свой службовы ты ўзляцеў Эльбрус.
У кожнага сваё, вядома, хобі.

Чым-небудзь захапляемся мы ўсе,
праз сваю на свет глядзім мы прызму.
Хто рыбу ловіць, рыфмы хто пасе,
а ты вось захапіўся альпінізмам.

## РЭБУС ШЧАСЦЯ

«Я шчасце»,— хтось шэпча на вуха.
«Што — шчасце?» — мы ў вечнай турботе.
Ці росквіт узнёслага духу?
Ці свята распешчанай плоці?

«Дзе шчасце?» — стагоддзі, эпохі
шукалі яго, як прычасця.
Магчыма, і ўведалі трохі
таго запаветнага шчасця...

Над ім колькі часу віталі
і літаратура, і эпас...
Віталі, а ці разгадалі
ягоны заблытаны рэбус?

Дзе шчасце блукае-пасецца,
паверце, дагэтуль не знаю.
І б'ецца парыўнае сэрца
ў капкане сямейнага раю.

З утульнага мяккага крэсла
спакойнае шчасце міргае —
хоць кроплю мне зайздрасць прынесла б
заможная доля чужая!

Той — стому нарзанам абмые,
а нехта — тутэйшай расою.
Мне лаўры здаюцца чужыя
чамусьці звычайнай лазою.

А мару мне гушкаць і гушкаць
з душой сваёй у таварыстве...
Лаўлю я жаданую птушку,
што вырвалася ў дзяцінстве.



Амаль паўдня пад рокаты грымот
блакіт нябёс не расчыняўся насцеж.
І тое, што пазніўся самалёт,
усё яшчэ здавалася няшчасцем.

Злой воляй уяўляўся ход падзей
ці нейкай непазбежнасцю фатальнай —
зацяўшыся, сярод чужых людзей
блукаў адзін па плошчы прывакзальнай.

І тое, што, адчуўшы стому ног,
на лаўку сеў я, набыло значэнне...
О, дзякуй, лёс, што ўвечар той не змог
дабрацца я да месца прызначэння.

Аўтобусы, таксі, нібы знарок,
па-змоўніцку ў той дзень давалі збоі.
Калі б яны ішлі ў патрэбны бок —
ніколі б не сустрэліся з табою!

Раптоўна ў сэрцы блісне думка-нож:
калі б прайшлі наўзбоч адной мінуты,
былі б якімі збедненымі ўсё ж
твае й мае дарожныя маршруты.

Як цяжка здагадацца, дзе, калі,
якою запаветнаю хвілінай
бывае гэта свята на зямлі —
перасячэнне двух жаданых ліній.



Што творыцца ў тваёй душы цяпер,
не скажаш і не выдасі вачамі.
Нябачны, але ўстойлівы бар'ер
стаіць сцяной кітайскай паміж намі.

Абы чужой надзеі і журбе
не даць ніякіх пэўных абяцанняў...
І хочацца за вейкамі табе
схавацца ад дарожных заляцанняў.

Як незалежна ты свой бавіш час,
пакуль цягнік здарожаны імчыцца.
Часопісам ад закаханых нас
як лёгка ты змагла адгарадзіцца.

Высока ўзносіш воблік свой святы.
А мы глядзім
і ўсё ж такі не верым,
што вельмі доўга вытрымаеш ты,
схаваўшы сэрца за нямым бар'ерам.



Не выпала з ніводнай хмаркай знацца
вачам тваім, дзе ззяла сінява.
Лёс не скупіўся. І ў свае семнаццаць
ты ўся была саткана з хараства.

Маланкаю прайшлася ў нейчым лёсе,
была прычынай радасцей і мук.
Зрабіцца сіняй птушкай давялося,
каб вырывацца з самых спрытных рук.

Хіба велікадушнасці ў прыродзе
няма? Няпраўда. Стала нам бліжэй.
Прыгожая, цябе дзесяцігоддзе
не зруйнавала, а ўзвяло вышэй.

Тваёй красы, чароўнасці бязмернасць
шчасліва выйшла на чарговы круг.
І зараз не шыкоўная манернасць
цвіце на твары — твой нябесны дух.

Недасягальны вуснаў вінаград —
не адгадаеш, ці бясспрэчна гэта...
І свеціцца твой сённяшні пагляд,
як дзень лагодны на пачатку лета.

* * *

Прыдбала, як і дзе, скажы, ўзяла
такую сваю лёгкую паходку?
Не падышла — нячутна падплыла,
паміж натоўпу слізгануўшы лодкай.

О як ты ўмееш гэта ўсё рабіць —
прыйсці павольна, затаіўшы спешку,

як быццам можна страціць і разбіць
на тратуары ранішнюю ўсмешку.

Хоць маё сэрца білася, трымцела,
тваёй пяшчотай поўнілася мройна —
спынілася ты, пільна паглядзела
у вочы мне — лагодна і спакойна.

Да локця прыхінулася на міг,
сказала штосьці радасна-гулліва.
Адчуўшы сонца ў позірках маіх,
ты раптам рассмяялася шчасліва.

* * *

Альбом яшчэ жыве былым,
ад успамінаў пухне.
Хаця даўно кахання дым
зрабіўся дымам кухні.

І, мусіць, стала не такой
твая цяпер усмешка,
калі ў агульны наш пакой
упалі нашы сцежкі.

Кудысьці знік і мой парыў,
як мёд з вясельных чарак,
калі над бытам запарыў
адзін і той жа чайнік.

Наш ясны дух крыху прытух,
як бляск світальных знічак,
запаўшы сёння ў цесны круг
адных і тых жа звычак.

А вецер першых лёгкіх звад
калыша нашу лодку.
Спасціглі: крыўду, быццам чад,
не выганіш праз фортку.

Ёсць адчуванне: як дубец —
рахункі, крыўды, слёзы...
Ды гэта ўсё-ткі не канец —
адны выдаткі прозы!

## ДРЭВА БЫТУ

Калі я лёс свой паяднаў з тваім —
той час нядаўні, памяццю не змыты,—
яно было маленькае зусім,
не дрэва, а на разе — дрэўца быту.

Кароценькія мела карані,
яно наогул кволы выгляд мела,
над намі не ўзвышалася ані,
над буднямі заможна не шумела.

Заўважыць не маглі сярод турбот,
як бераг наш цэментаваўся ў лёсе.

І дрэва быту праз колькі год
разлапілася, буйна разраслося.

Палезлі ўглыб карэнні пакрысе
і ўсякі рух да месца прыкавалі,
звялі пад дах лятункі нашы ўсе
і шчыльна да зямлі прышвартавалі.

Не раз, не два падумаецца мне
вясеннімі разбуджанымі днямі:
вось дрэва быту ветрам пахісне
і вырве нечакана з каранямі.

* * *

Я змог бы, можа, цэлы свет абняць,
калі б не ты, што стрэлася мне ў маі...
Той свет нішто, калі цябе адняць —
адну цябе сягоння абдымаю.

Ды чым далей ад радаснай вясны,
тым больш твае захмарваюцца здымкі...
Што я зраблю, калі тармосіць сны
вялікі свет і просіцца ў абдымкі.



Вясенні промень, ты хітрэй, чым я.
Ішоў, здаецца, ты мне ў рукі толькі,
адбіўшыся ад люстра ручая...
Рассыпаўся
на дробныя асколкі!

Хацеў я ўбачыць, салавей дзівосны,
тваіх мелодый нараджэння міг.
Вось у гушчар затупаў вербалозны,
а ты, дзівак, прыслухаўся і сціх.

Я пазіраў, узрушаны, здаля
на квецень яблынь — уявіце самі.
А падышоў да самага галля —
і пчолы ледзь мяне не пакусалі.

Каханая мая, якраз такі
быў нораў у цябе — падумай стала.
Як я хацеў прасіць тваёй рукі,
дык ты раптоўна некуды знікала.

Пасля зусім схавалася ты ў мары —
даўно няма надзей на твой зваротак.
Я знаю, ты баялася за чары:
а раптам згінуць, мой адчуўшы дотык?



Я знаю: ў нейкай падсвядомай клетцы
партрэт застаўся назаўсёды твой.
Такой, як ты была, цудоўнай кветцы
ёсць многа месца ў памяці маёй.

Але даўно агорнуты сутоннем
адзіны вечар непаўторны наш.
Стаў вобраз твой ужо прыблізным сёння,
прыгожым і няўлоўным, як міраж.

Мой зрок спрабуе выхапіць са змроку,
з былой начы цябе — святло з імжы.
Ды тое, што не падуладна зроку,
лягчэй зрабіць узрушанай душы.

Здалося раптам: смагу наталіла,
з'явіўшыся перада мной ізноў.
Імгненна цёплым ветрам атуліла
і знікла ў вецці маладых гадоў.



Люблю цябе, сустрэчны чалавек,
нязнаны, непрыкмечаны, калі ты
з-пад задумённа-здзіўленых павек
глядзіш, як я, на свет, святлом заліты.

Ты мне такі знаёмы ў гэты міг —
ніколі і не быў ты мне далёкім.
І паміж намі, хоць не бачна іх,
сваяцтва выпраменьваюцца токі.

Агульны вецер нам казыча твар,
у лепшы час агульная дарога,
агульны покліч запаветных мар,
за лёс Зямлі агульная трывога.

Агульны снег, агульны дождж і град,
агульныя і хмары, і праменні.
Агульных зорак велічны пагляд
плыве ў душу агульным утрапеннем.

## СОН ПРЫЗЫЎНІКОЎ

Удалеч ранішнія рэйкі
нясуць свой азалелы звон...
Ва ўсіх апушчаныя вейкі —
запанаваў світальны сон.

Нібы вось скончыліся танцы —
і зараз стому не суняць...
О як салодка навабранцы
ў затлумленым вагоне спяць!

Не чуюць восені пахмурай
і цвёрдых дошак пад плячом,

благаславёныя матуляй,
пацалаваныя дзяўчом.

Якая сціпланасць на твары,
на ім ні крыўды, ні віны,
а толькі ззянне чыстай мары
над страхам болю і вайны.

Здаецца: ўся бяда пажата,
лёс іхні — не дамоклаў меч...
Але ў вагоне два сяржанты
дрымоту адганяюць прэч.

Ім сёння гонар, бы натхненне,
ніяк зажмурыцца не дасць.
Ім трэба везці папаўненне —
сваіх наступнікаў у часць.

Ім даспадобы шлях прасцяжны,
папераджальныя гудкі.
Трымаюцца яны так важна,
ажно пабліскваюць значкі.

З іх кожны выглядае франтам,
хоць не «кімарыў» давідна...
Сяржантам двум і лейтэнанту
не спіцца ля свайго акна.

Ім нібы загадана: пільна
і на світанку і ўначы
усемагутны сон цывільны
пакуль што ўсё ж паберагчы.

## ПРЫЦЕМКІ

Замкнуцца не жадае круг турбот,
на лаўку сесці не спяшае вечар —
сякерай ляснуў па дварышчы нейчым,
нябачным возам рыпнуў ля варот.
Гудзе прызыўна цёплы дымаход.

І са стала здымаецца абрус,
дзяжа з сяней укочваецца шустра.
Сышоўшы з рук, крамяная капуста
паўзе на нож пад меладычны хруст,
бо без капусты — што за беларус!

Лістае дзённік з гонарам Пятрок,
што будзе заўтра — хлопцу не ўсё роўна.
Чытае моцна, ўголас «Бандароўну».
Як кажа мама, паўтарай урок
і не зважай, што хочацца на бок.

Гаворыць дыктар аб заяве ТАСС.
На пяць хвілін з іголкаю і шпулькай
на крэсле прымасцілася бабулька,
глядзіць уважліва праграму «Час» —
«Хай бы прыехаў Рэйган той да нас!

Як варта жыць, спытаўся б у мяне...
Адно заладзіў пра скančэнне свету...
Адна малітва — бомбы і ракеты...
Ах, нелюдзі! Не зойдуцца ж у сне
усе, хто яшчэ блюзніць аб вайне».

## КУСЦІЦЦА ЖЫТА

Разліўся свежы халадок,
паветра — з чысцінёй крынічнай.
Свет развітаўся з песняй зычнай.
Кастрычнік. Восень. З-пад аблок
зірнула сонца незнарок.

І лёгкай яснасцю наўзбоч
палетак абвяла абмыты.
Гусцее рунь. Кусціцца жыта.
Я не магу адвесці воч,
гляджу, пакуль не прыйдзе ноч.

Святлее раптам небакрай —
прырода як не знае стомы.
Зіму чакае стог саломы.
Над ім стаіць варонні грай —
ляцець не ўсім жа ў цёплы край.

І вольна дыхаецца мне,
і горкай думкі — аніводнай.
Здаюцца байкай беды, войны —
яны мне выдаліся ў сне.
Лагодна ў нашай старане.

На горку шлях мой узбяжыць,
травою позняю абжыты.
Глядзіце, як кусціцца жыта.
Як хочацца у гэты момант жыць —
наканаваны дзень вяршыць.

## ЗАСНЕЖАНАЕ ПОЛЕ

Як быццам тут і жыта не было,
ні жыта, ні кіпучага калосся.
Што мелася адбыцца — адбылося.
Адлапушылася, перацвіло.
Сабралі людзі зерне і цяпло.

Жыццё нібы замёрла. Не сезон.
Вялікі снег распачынае лежку.
Шурпаты вецер замятае сцежку
маю і зайца, што ля баразён
прыгнуўся, удыхаючы азон.

Сцюдзёная адчужанасць лягла
паміж табой, суцішаным, і полем.
Не падаць духам! А бярэш ты з боем
свой добры і расчулены настрой,
адвёўшы думак заняпалых рой.

Няпэўны час ідзеш па цаліку,
узор слядоў разгортваеш марудна.
А пад табой спіць поле непрабудна,
спакойна дрэмле — верыць жаўруку,
які пабудзіць у сакавіку.

Пануе бель і поля, і лугоў.
Хоць з неба стыласць дыхае густая,
цяпло ў душы, бы з поля, прарастае.
І шырыцца без меж і берагоў
цяпло тваё над гурбамі снягоў.



Гітара прачынаецца ўначы —
ахвотніца вясёлага ігрышча.
Хмялее, падтанцоўвае дварышча,
дзе цягнуць хлопцы песню,
як драчы.
Турбота ў іх —
за сэрцам наўздагон...
Адно вядома: поцемкі і зоркі
ім даражэй,
чым школьныя «пяцёркі»,
і шмат мілей,
чым самы лепшы сон.
Як вецер той, парыўна-зухаваты,
сягае, разняволіўшыся, дух.
І чым далей — мае акселераты
змыкаюцца ў жаданы шчыльны круг.
Вось-вось аціхне — і чаму я рады —
траскучы пошчак маладой бравады.

## ДЗЕСЯЦІКЛАСНІКІ

На галаву
бацькоў сваіх перараслі,
хоць прыкра выдаюць,
што ім семнаццаць,
плечы...

Блукае іх вясна
ў чаромхавым галлі,
у незнаёмы свет
ляціць пагляд хлапечы.
Малюнкавы той свет.
Ён кніжны свет пакуль —
пасёлкі, гарады,
машыны і дарогі.
Знаёма нібы ўсё.
Ды вее адусюль
шчымлівы халадок
набліжанай трывогі.
Пад парту не нырнеш,
не дзенешся нідзе —
нарэшце зазірнеш
у вочы свайму веку...
Вось-вось, праз нейкі міг,
з плячэй іх ападзе,
як коўдра цёплая,
штодзённая апека.
На скразняках,
што зябка свішчуць па жыцці,
ці будуць у цане
апошнія парады?
Каб мару адагрэць,
як часта ім ісці
праз поле шэрых дзён
да вогнішча спагады?
Наканавана ім
ці сонца, ці імжа?

Ці вынесе ў зеніт
іх сіла маладая?
Нашто гадаць аб тым.
Галоўнае — душа
узбуджана звініць
і жаўранкам спявае.

* * *

Хіба што ноччу перапынкі
бываюць — суціхае звон...
Грымяць размашыста пласцінкі,
і стогне аж магнітафон.

І гэты шум праймае шылам
душу бацькоў — няма ўжо сіл...
«Што сталася з паслушным сынам,
які камар яго ўкусіў?

Зусім не думае пра ўрокі,
у галаве адно — сябры.
І толькі б лындаць рукі ў бокі,
а злы — да трох не гавары...»

Бацькі, мы ўсе адтуль прыходзім,
з тых дзён, што звоняць, як званы.
Бушуе велічным разводдзем
вада семнаццатай вясны.

Яна дзе хоча працякае,
не скажаш ёй: «Куды плывеш?»
Не прызнае вада такая
ні нашых рэчышчаў, ні меж.

Абыдзе пеністым разводдзем
усе дарогі і лагі
і супакоеная ўвойдзе
у рэшце рэшт у берагі.

## ВЯЧЭРНІКІ

Каторы раз прыходжу я сюды,
і ўсё гляджу ў насмешлівыя твары,
і думаю: нявінныя ахвяры
дзён маладых... Унукі і дзяды —
тут так перамяшаліся гады!

Вусатыя гусары-дзецюкі,
вы толькі што вярнуліся з вяселля,
і галаву пагойдвае з пахмелля...
Я спачуваю: выгляд ваш такі...
Драмалі б вы па хатах, дзівакі!

Дыктую вам, дзяўчаты, нешта я...
Якія тут дамашнія заданні —
хто на выданні з вас, перавыданні...
І тэма ў вас нязменная — сям'я!
Вам тэма ці прыклеіцца мая?

Мо не для ўсіх, але для многіх вас
падручнікі і ручкі — перажыткі...
І вашы пакамечаныя сшыткі
мой тэзіс падмацоўваюць якраз.
Ды ўсё ж кажу сабе: «У добры час!»

Я так кажу вось — з рызыкай — таму,
што веру ўпарта: будзе ўсё ў ажуры,
і непахісны сцяг літаратуры
над вашымі галовамі ўздыму.
Іначай грош цана жыццю майму.

## БЫЛЫЯ ВУЧНІ

Яны разышліся,
што ў небе хмурынкі —
Сярожкі, Валодзькі,
Данусі, Ірынкі.
Па ўсіх бальшаках,
брукаваных і пыльных —
хто ў войска,
хто замуж,
хто ў Мінск,
а хто ў Вільню...
Далёка ад маці,
далёка ад школы...
Мільгае ў натоўпе
іх воблік вясёлы.

Я знаю: вось гэтым
шанцуе няйначай,
і цешуся іхняй
дарогай юначай.
А іншы
спаткацца зусім неахвочы,
вітаецца — і апускаюцца вочы.
Відаць, яму розныя
беды-напасці
сурочылі нашу
гаворку аб шчасці.
Ты знаеш,
ты знаеш, няўдачлівы хлопча,
як доўгая п'яўка віны
мяне смокча.

* * *

Хачу я
і творцам назваць апантаным
цябе, чалавеча,
і проста аратым.
Быць хочаш тытанам —
завіся тытанам:
табе ж пакарыўся
і космас, і атам.
У шкуры флегматыка
сорамна кіснуць,

хоць шашалем точаць
штодзённыя стрэсы,
хоць хуткасці
звышненармальныя цісnуць
на сэрца стамлёнае
д'ябальскім прэсам.
Як можна —
і гэта пытанне дарэчы —
грымучыя пошчакі
выслухаць сэрцам?
А можа,
цябе мне ўявіць, чалавеча,
нядбайна,
наспех перасаджаным дрэўцам.
Сухая, высокая тэмпература,
карэнне заціснула гліна густая...
Пры гэтым ваўсю разгулялася бура,
шалёная бура галінкі хістае.
Каб лісцем зялёным
задыхаць пад небам,
пад ветрам парывістым
нельга лажыцца.
І трэба
упарта чапляцца за глебу,
хутчэй
у прасушанай глебе прыжыцца.



Зэяе маленства дзівам,
казкай шчымліва-дзівоснай...
Як гэта ўсё праўдзіва,
як гэта ўсё сур'ёзна!

А за юнацтвам — сталасць,
экзаменатар грозны...
Роўная сталасць настала.
Як гэта ўсё сур'ёзна!

Думкі, як восы, джаляць,
думак у сэрцы — завозна.
Боль, і сумленне, і памяць —
як гэта ўсё сур'ёзна!

Годы мудрасці вучаць,
хоць і бывае позна...
Любім каго ці мучым —
як гэта ўсё сур'ёзна!

Гэты вось снег і вецер,
сонечны ранак марозны,
тое, што ёсць мы на свеце —
як гэта ўсё сур'ёзна!



Было шмат бегу, мала ям,
скакаў і ў снег
і ў дождж густы...
Мой даўні сябар гулкі ямб
стаміў, здаецца, капыты.

Па сцежцы, што пятляе ў лотаць,
у вір крушыны маладой,
мне зараз хочацца не лётаць —
крануцца плыннаю хадой.

Хадой, пазначанаю лёсам,
хадой, прыцішанаю грузам,
у такце з выспелым калоссем,
у рытме з нетаропкім пульсам.



Здаецца, такімі прызнанні былі ўсе,
такімі густымі прызнанні пад вішняй.
Каханай сваёй да канца ты адкрыўся,
а самае-самае
з сэрца не выйшла.

Здаецца, такім ужо ўзрушаным быў ты,
такія сярдзітыя словы саспелі.

Ты выказаў самыя большыя крыўды,
ды самыя-самыя
ў горле заселі.

Душа твая часта бывала на ўздыме,
надзеі свой бераг не раз адшукалі.
Зрабіліся многія зоркі тваімі,
а самыя-самыя
з рук паўцякалі.

Трывога не раз ужо крочыла следам,
адчай верхаводзіў — аж моташна зараз.
У дзверы твае ўжо ўваходзілі беды,
ды самыя-самыя
страцілі адрас.

Ты штосьці зрабіў, запаветнае здзейсніў,
сякія-такія задумы збыліся.
Здаецца, пісаў ты душэўныя песні,
а самыя-самыя
ўсё ж не ўдаліся.

* * *

З позіркам,
дзе канчаткова лёг
выстыглы цень адзіноты.
З вуснамі,
дзе бессмяротна і неадлучна

імёны жывуць —
жонкі, дзяцей, аднапалчан,
размеркаваных хто дзе —
па хатынях і ўзбочынах.
На грудзях, на спіне
фіялетавая карта вайны —
ад Курскай дугі да Берліна.
Абагрэты свяціламі медыцыны,
зацыраваны, падлаплены...
Вуліцу пераходзіць
паважліва і ветліва —
прыемны такі пешаход.
Але чамусьці
баюся яго зачапіць
словам — неасцярожнай іскрай.
Выбухне сэрца!
Доўга
будуць пасля ападаць
асколкі пакуты.

* * *

Як весела,
як часта,
як бяздумна
раскрыленыя рукі маладосці
адмахваюцца ад парад дарослых,
нібыта ўсе парады — плойма мух.

З якім спружыністым энтузіязмам
спартыўныя падлеткавыя ногі,
бывае, топчуць даўнія звычаі,
як быццам там, пад юнаю пятой,
не згустак вопыту —
трава на стадыёне.
О, словы спадарожных ушчуванняў,
вы падаеце на плечы юнакам,
як восеньскае лісце,
у якім
загінуў хларафіл —
загінуў сэнс!
Загінуў сэнс?..
Ды пройдзе хмель вясны —
і колішнія адрастуць наказы,
яны ўваскрэснуць
гонкаю атавай
і раняць сэрца
мудрасцю былой,
бо кожнага дагоняць юнака
ў сярэдзіне
або ў канцы дарогі.
Напэўна, змусяць,
хоць і са спазненнем,
ім даць прытулак у душы затлумленай
і вусны старца ўсё ж благаславіць.



Два лёсы,
як два галубы,
на пачатку змяркання,
ацiхлыя,
складваюць крылле.
Агнiстае пер'е ўтрапення
стухае,
як позняе вогнiшча.
I самi
хаваюцца ў прызмеркi
старыя i новыя крыўды,
шматлiкiя супрацьстаяннi,
рахункi
i доўгiя спрэчкi,
працяглая неадпаведнасць...
I вось
на пачатку змяркання
прыходзiць збліжэнне.
Нарэшце
ўсплывае пад вечар
i свецiць
спакойная згода —
два лёсы,
як два галубы,
прымiрэнне святкуюць.

7 Зак. 1068



Дзяўчына пад клёнам асеннім
стаілася — не варухнецца.
Старанна пазіруе небу,
дзе плавае крык жураўліны.
Апошняя музыка неба.
Апошняя музыка лісця.
Дзяўчына пад клёнам асеннім
на нас не звяртае ўвагі.
Агністы лісток разглядае,
што ёй апусціўся на рукі.
«Такі дасканалы па форме,
надзіва недаўгавечны —
і так памірае прыгожа...»
Было захапленне з адценнем
здзіўлення і лёгкага суму —
той сум варухнуўся ў вачах
празрыстай хмурынкай і знік.
Дзяўчына пад клёнам асеннім,
напэўна, кагосьці чакае
і свеціцца ўся, як вясна,
якую вятры выпадковыя
занеслі пад восеньскі клён.
А дрэва кідае лісты
на шчасце,
на шчасце,
на шчасце...



Аж свеціцца ўся маці-прыгажуня.
Ідзе —
нібыта ў вальсе праплывае.
Ад вытанчанай статнасці яе,
ад яснавокай постаці яе
лагодзіцца,
праменіцца надвор'е.
Падлетак-сын,
прывабны, як і маці,
да локця штохвілінна прыпадае,
як на далоні
ўся яго прыхільнасць,
яго любоў,
што ўспыхвае ў паглядзе.
Ідуць яны,
з'ядналыя гармоніяй,—
мадонна-маці
і аддалы сын.
І сорамна,
хоць на адно імгненне,
пусціць у сэрца здрадлівую думку:
за першым ці наступным паваротам
адчужанасць
іх пільна каравуліць.



Цераз няўтульнасць, холад і тугу
плыве кастрычнік па сырой дарозе.
Паглядваюць авечкі з-пад абочыны
на тых,
хто вочы засланіў маркотай
і звіў настрой
з панурага надвор'я.
Ліе і дзьме,
а ім вось — хоць бы што.
Свой цесны гурт
прадбачліва ўтварылі,
пасталі —
галава да галавы,
стуліліся —
дыханне на дыханне.
Цячэ праз поўсць
агульнае цяпло,
на ўсіх —
агульны звон сэрцабіення.
І чыйсьці страх,
асенняя журба,
няўпэўненасць ці маладая кволасць
у еднасці сардэчнай патанаюць,
дзе плаваюць
цярпенне і спакой.

* * *

Раней была іншая ноч.
Да сцішаных вокан яна прыпадала,
глядзела чысцюткімі зрэнкамі зорак,
гарнулася бэзавым веццем да шыбы
і клікала,
клікала...
Зараз яна
прыліпла да шыбы чорнай капіркай,
скрабецца антэнай,
як змерзлая кошка,
павізгвае ветрам,
як сабачанё,
і ліўнем цурболіць,
як кран незакручаны.
Раней і падушка інакшай была —
сагрэтая матчыным лёгкім дыханнем,
штовечар набітая доўгімі казкамі,
шматлікімі цудамі —
добрымі снамі,
жывым прадчуваннем бясконцага шчасця,
аддана люляла шчаку
і надзею.
А зараз
як быццам ляжыць не падушка —
так муляе шыю,
патыліцу ціснe,
лічы хоць да тысячы —
сон не ўгаворыш...

Патрохі, патрохі —
і з насыпкі белай
жыццё пастаралася вытрасці пер'е,
назад напіхаўшы калючыя скруткі
узбуджаных думак,
што джаляць, як змеі.

## ДРЭВЫ-СКАЛАЛАЗЫ

Гады,
        стагоддзі
                і тысячагоддзі
пайшлі на тое, каб у рэшце рэшт
адваяваць у неба вышыню —
да запаветных воблакаў далезці.
Якая ўпартасць,
                моц
                    і намаганне
спатрэбіліся дрэвам-скалалазам,
каб веццем лапушыстым расхістаць
адчужанасць крутой гары.
Калі бушуюць гучныя вятры,
трашчыць у іх карэнне-сухажылле.
Якая ў гэтым, пэўна, асалода —
увесь свой век
                над безданню вісець,
галінкай ні адной не задрыжаць
і штохвілінна захапляцца лёсам.

Жыць для таго,
каб пакарыць вяршыню,
яе абклаўшы кругавой асадай.
Тысячагоддзі дрэвы-альпіністы
працягваюць зялёны штурм гары.
І пазіраюць,
гордыя,
уніз,
дзе мітусяцца людзі з рукзакамі.
Прышэльцы з гарадоў,
далін,
нізін,
узняўшыся, спяшаюцца назад...
Ніводзін з іх пакуль не рызыкне
абраць скалу для сталага жыхарства.
Відаць,
яны чамусьці забываюць
узняць сваё карэнне ўверх з падножжа.
Ды ўніз не пойдуць дрэвы-альпіністы —
іх тут, у небе, вечная радзіма,
іх тут, у небе, слава і жыццё.

## ВАКОЛ АГНЮ

Да полымя
падсоўвайся, сусед.
Глядзі,
у печцы колькі весялосці.

Ад цёмных дум
адыдзеш неўпрыкмет,
сагрэўшы перастуджаныя косці.
А вось і чай.
Мы ж даўнія піткі...
хоць рызыкі
на градусы бракуе.
Яшчэ палена нейкае
падкінь —
няхай агонь асінкі пасмакуе.
Шчыруй,
агонь,
у коміне скачы —
наш друг — таварыш
з маладога веку.
Сярод глухой насупленай начы
прыемна
з табой знацца чалавеку.
Ты свой.
На свет з'яўляешся штодзень,
слуга адданы
да апошніх крокаў.
Трапечашся
ласкава ля калень,
калі за шыбай вецер загалёкаў.
Ты ёсць заўжды.
У кожным разе ёсць.
Прыветна клічаш
з вуліцы
і рэчкі.

Праходзь жа,
Ян.
Ну, што стаіш,
Антось?
Вы з крэсламі
грабіцеся да печкі.
Як каралі,
рассядземся наўкруг
і языкамі падыграем лёсу.
Душа старая,
пэўна, прыйдзе ў рух,
пакуль сваю сфалькуем папяросу.
Зноў па паленцу кінем
у агонь
з пашанай звычнай
да яго работы.
З зімой на «ты» сухая абалонь —
трашчыць, нібы страляе
у сумёты.
Вакол агню
ні смутку,
ні тугі.
Такім, як ёсць,
сядзіш перад усімі.
Усе свае
даўно сплаціў даўгі,
жывеш па-людску
з роднымі й чужымі.
Вакол агню
мы нагадаем зноў,

на нейкі міг аддаўшыся трывозе,
гарачых,
быццам полымя, сыноў,
якіх нічым
не спыніш у дарозе.
Падкінем мы яшчэ
з паленцаў пяць —
пасля ці будзе
весялейшай міна...
Хай не дымяцца, а ярчэй гарацЬ
і нашы дні,
і нашыя ўспаміны.





# ЗМЕСТ

**Дукса М.**

Д 82 Твая пара сяўбы: Вершы.— Мн.: Маст. літ., 1985.— 118 с.

45 к.

Новы зборнік паэта тэматычна разнастайны: сучасная вёска, праца настаўніка, шчасце, маладосць. Вершы паказваюць жывыя прыкметы часу — з яго дасягненнямі і праблемамі, з яго драматызмам. Праз многія радкі праходзіць думка пра адказнасць чалавека перад людзьмі, Радзімай, гісторыяй.

Д $\frac{4702120200-091}{М302(05)-85}$ 56—85

ББК84Бел7

Бел2

МАРЬЯН НИКОЛАЕВИЧ ДУКСА

**ТВОЯ ПОРА СЕВА**

Стихи

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар Н. І. Семашкевіч
Мастак Г. Г. Малышаў
Мастацкі рэдактар А. М. Малышава
Тэхнічны рэдактар А. Б. Барадзіна
Карэктар Л. Т. Калюжная

ІБ № 2284

Здадзена ў набор 10.01.85. Падп. да друку 26.04.85. АТ 06694. Фармат 60×90 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 3,75. Ум. фарб.-адб. 4,06. Ул.-выд. арк. 4,13. Тыраж 2000 экз. Зак. 1068. Цана 45 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.